www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***


# Народная Воля

**№ 72 (4324)**

11 верасня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
***Тэл. (8 017) 328 68 71***

ЛІСТ ДА ЧЫТАЧОЎ



***Іосіф СЯРЭДЗІЧ,***
*заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты «Народная Воля».*

## За Праўду, Волю і Свабоду!

ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Існуе нямала спосабаў, каб пацвердзіць свой патрыятызм і аддасць Радзіме. Самы просты – стаць падпісчыкам газеты «Народная Воля», якая амаль чвэрць стагоддзя застаецца значным і любімым выданнем для ўсіх неабыякавых і разважлівых людзей. Зарука такога поспеху ў прынцыпах нашай працы.

Мы жывём у час панавання інфармацыі, а СМІ фарміруюць грамадскую думку. Таму, перажываючы за сваё роднае, айчыннае, мы пішам толькі **ПРАЎДУ**, аб'ектыўна і поўна асвятляем грамадскія, палітычныя і эканамічныя тэмы, адлюстроўваем разнастайныя пункты гледжання, не навязваючы чытачам пазіцыі рэдакцыі. Аналізаваць і рабіць высновы Вы павінны самі. Таму мы гаворым: "Народная Воля" – газета для тых, хто ўмее чытаць і думаць, хто не ганяецца за таннымі сенсацыямі, хто гатовы плаціць разумныя грошы за якасны тавар.

Калі Вы сапраўды хочаце ведаць **ПРАЎДУ**, падпісвайцеся на нашу газету. А таксама праявіце актыўнасць і парайце зрабіць тое ж сваім родным, сябрам, суседзям, калегам. Выбірайце любы тэрмін – на месяц, два, тры, адразу на квартал, на паўгоддзе. Калі Вы не афармілі падпіску на кастрычнік–снежань, то, калі ласка, паспяшайцеся – Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваным пункце "Белсаюздруку" да 26 верасня.

Кошт **месячнай** падпіскі на газету "Народная Воля" – **6 рублёў 96 капеек**, **квартальнай – 20 рублёў 88 капеек** (прыкладна 23 капейкі на дзень!). Упэўнены, што такія сродкі Вам па кішэні. Так, адна паездка ў метро абходзіцца мінчанам амаль у тры разы даражэй – 65 капеек.

Памятайце: падпісаўшыся на "Народную Волю", Вы інвестуеце ў **ПРАЎДУ! А ПРАЎДА, ВОЛЯ і СВАБОДА** – гэта тое, што дазволіць забяспечыць шчаслівую будучыню ўсім нам, народу і краіне.

***Вы – з «НАРОДНАЙ ВОЛЯЙ», «НАРОДНАЯ ВОЛЯ» – з Вамі!***

УПЕРШЫНЮ Ў НАС

## 80 касманаўтаў з 17 краін прыбылі ў Мінск на Міжнародны кангрэс Асацыяцыі ўдзельнікаў касмічных палётаў







Фота БЕЛТА.

АБЗАЦАМ

### Міхаіл Бабіч прыбыў у Мінск

У бліжэйшыя дні новы амбасадар Расіі ў Беларусі плануе ўручыць копіі даверчых грамат міністру замежных спраў Уладзіміру Макею.

### Паедзем на кірмаш?

Сельскагаспадарчыя кірмашы пройдуць у Мінску з 22 верасня па 4 лістапада.

### Затрыманы за буйны хабар

Кіраўніка ЖКГ №1 Фрунзенскага раёна Мінска Андрэя Арлоўскага падазраюць у атрыманні буйнога хабару на тысячы долараў.

НУ І НУ!

## Хто дыскрэдытуе ўладу?

Калі мець на ўвазе тое, што адбылося ў мінулую нядзелю з удзельнікам Мінскага паўмарафона Уладзем Сташкевічам, то адказ на пытанне, пастаўленае ў загалоўку, адназначны: людзі ў пагонах. Не важна, у якіх структурах яны служаць – КДБ, АМАП ці проста ў міліцыі.

Ці ж не дзікунства затрымаць чалавека, які прабег 21,1 кіламетра, атрымаў медаль, толькі за тое, што ён на дыстанцыі трымаў у руках бел-чырвона-белы сцяг – наш гістарычны сімвал! У паўмарафоне ўдзельнічалі дзясяткі тысяч аматараў бегу не толькі з Беларусі, а і з многіх іншых краін свету. Сярод іх было нямала тых, хто публічна дэманстраваў сваю нацыянальную сімволіку, сцяжкі кампаній, у якіх яны працуюць, спонсарскіх арганізацый. А тут Уладзь Сташкевіч падняў наш гістарычны бел-чырвона-белы сцяг – і за гэта пасля многакіламетровай дыстанцыі яго спачатку правялі ў аўтазак і затым даставілі ў Цэнтральнае ўпраўленне ўнутраных спраў, дзе пратрымалі тры гадзіны.

Народная мудрасць сцвярджае: "Скажы дурню Богу маліцца – лоб разаб'е". Ці не адносіцца гэта да тых, хто пазаўчора беспадстаўна накінуўся на ўдзельніка Мінскага паўмарафону Уладзя Сташкевіча і зацягнуў яго ў міліцыю? Нагадаю: бел-чырвона-белы сцяг у Беларусі афіцыйна не забаронены.

**Вераніка КУЛАКОВА.**




НА ЎЛАСНЫЯ ВОЧЫ

## Ці ёсць у крамах танныя беларускія яблыкі?

Здавалася б, улічваючы сёлетнюю шчодрасць прыроды, беларускія яблыкі павінны быць у кожнай краме. І па зусім нізкіх коштах. А ці так гэта насамрэч?

Першай крамай, у якую я завітаў, стаў універсам "Родны кут", што на сталічным праспекце Пераможцаў, зусім побач з "Белкаапсаюзам" – арганізацыяй, якая якраз-такі прымае садавіну-гародніну ў насельніцтва і якая па стане на 5 верасня закупіла 36,2 тысячы тон яблык. Гэта, дарэчы, у 1,6 раза больш, чым на аналагічную дату мінулага года.

Дык вось "Родны кут". На паліцах два віды яблык: польскія гатунку "Глостар" па 2,64 рубля за кіло і чырвоныя беларускія яблыкі – удвая танней. Гатунак на цэнніку не пазначаны, але кошт маецца – 1,32 рубля.

Далей крочым у магазін "Еўраопт-Prime", тут жа, на праспекце Пераможцаў. Магазін знаходзіцца ў цокальным паверсе аднаго са сталічных гандлёвых цэнтраў і вядомы ў першую чаргу тым, што там ёсць касы спецыяльна для беларускамоўных кліентаў.

Яблыкі, якія тут прадаюцца, выключна беларускія. Гатункі таксама не пазначаны. На цэнніках напісана: "яблык чырвоны (РБ) – 1,19 руб./кг", а вось "яблык зялёны (РБ)" каштуе ўсяго 99 капеек.

Грушы на паліцах гэтай крамы таксама выключна беларускія. Варыянтаў для выбару няма, гатунак толькі адзін – "Канферэнцыя". Кошт – 1,69 рубля за кілаграм.

Наступнай кропкай "рэйду" стала крама сеткі "Рублёўскі". І вось тут было чаму дзівіцца. Родны беларускі яблык прадаецца тут па 1,98 рубля за кілаграм. Прадстаўлены ў краме і іншаземныя "канкурэнты". Так, "Рэд Прынц", які быў вырашчаны ў Нідэрландах, каштуе ні многа ні мала 4,99 за кіло. Колькі тых яблык на такую суму выйдзе? Тры ці чатыры – не больш. Відавочна: у канчатковы кошт замежнага яблыка закладзена немалая "накрутка".

Дарэчы, французскія яблыкі, якія ляжаць побач, каштуюць танней, чым галандскія, але таксама "кусаюцца" – 3,99 за кіло. Безумоўна, спажывец павінен мець права выбару. Але ж навошта пераплачваць за чужое, калі сваё ў літаральным сэнсе пад нагамі валяецца? І гандляры павінны рабіць стаўку не на замежную садавіну, а на сваю, родненькую?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Так нам и надо!

В Большом театре оперы и балета по требованию верующих отменили премьеру «Саломеи». Казалось бы, чему удивляться, если «по просьбам» анонимных трудящихся переименовывали главные проспекты столицы, реанимировали советскую государственную символику и даже отменяли льготы. И все-таки ситуация удивительная.

В кляузах, доносах, анонимках для нашей страны ничего необычного нет. Удивительно то, что теперь и решения органов власти стали анонимными.

Кто тот аноним, который отдал указание: «Отменить!»

Кто посмел отменить премьеру в главном театре страны, приуроченную к Дню города и наплыву гостей?

Кто имеет власть наплевать на решение худсовета Министерства культуры, который принял спектакль; на решение экспертной комиссии, которая заранее оценила постановку на предмет порнографии и жестокости; на 2000 зрителей, которые купили билеты; на артистов, музыкантов, режиссеров, народных и заслуженных, которые в этот спектакль вложили душу?

Кто заставил опытного чиновника, директора театра Владимира Гридюшко краснеть, бледнеть, хвататься за сердце, хвататься за ручку, чтобы писать заявление об уходе?.. Но при этом упорно молчать о том, от кого поступил приказ?..

«Чье это решение? Кто распорядился? Кто на подобное уполномочен?» – вопрошают журналисты, зрители, люди театральные и нетеатральные. Но в ответ – тишина.

Напомню, что этот тайный некто поучаствовал и в другом скандале последних дней, отдав приказ снять с минских улиц наружную рекламу магазина Simbal.by.

«Так добра, калі ты ўсміхаешся», – подбадривал с билборда поэт Владимир Некляев. «А хто тут такі прыгожы ідзе?» – приветствовал с другого краевед и телеведущий Юрий Жигимонт. Но и полдня не продержались со своими посланиями оптимизма.

Кто и в чем тут увидел крамолу? Кто отдал приказ убрать? Опять нет ответа на вопрос. Никто не признается. Министр антимонопольного регулирования и торговли Владимир Колтович, который, собственно, и отвечает в стране за рекламу, оказался совсем не в курсе.

На недавней пресс-конференции с участием министра и других представителей министерства по поводу произошедшего прозвучало приблизительно следующее: мало данных, неясно, кто звонил оператору наружной рекламы с требованием снять борды, прокомментировать конкретную ситуацию по кейсу магазина Symbal.by в министерстве не могут, так как для этого нужно проводить отдельное разбирательство... На ироничный вопрос одного из журналистов о том, не рано ли Лукашенко отменил согласование наружной рекламы, если постфактум ее можно снять «по телефонному праву», министр Колтович ответил буквально следующее: «Декрет президента №7 *(имеется в виду декрет «О развитии предпринимательства». – **Прим. авт.**)* не подлежит обсуждению, как и другие правовые акты, принимаемые главой государства».

Так, черт побери, кто в этой стране телефонным звонком может отменить действие декрета президента? И почему министерство не хочет с этим разбираться?

Ясно ведь, что не Лукашенко звонил в рекламную фирму с указанием убрать Некляева и Жигимонта с минских улиц или отменить премьеру «Саломеи». Тогда кто творит в стране произвол от его имени и под его прикрытием? Кто отменяет действие его декретов? Кто выпускает на волю религиозное мракобесие? Кто имеет власть наплевать и на людей заслуженных, и на людей обычных просто потому, что как-то по-особому видит мир и имеет свои представления о плохом и хорошем?

Почему директору Оперного Владимиру Гридюшко страшно озвучить фамилию или хотя бы структуру, которая отдала приказ отменить премьеру? Почему страшно министру Колтовичу? Кого они боятся больше, чем Лукашенко?

Почему они все молчат и только ссылаются на анонимные «указания сверху»? Почему мы молчим о том, что какие-то опричники давно творят в стране беспредел, правят, как хотят, где хотят и как считают нужным, наплевав на все и на всех?

Впрочем, если молчим – то так нам и надо.

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО?..

## У Беларусі сёння 420 доўгажыхароў, якім больш за 100 гадоў.

Народная Воля http://www.nv-online.info
11 ВЕРАСНЯ 2018 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,

профессор,
доктор экономических наук

# Бумеранг

Последние дни августа и первые дни осени работы Белорусской валютно-фондовой биржи (БВФБ) показывают, что белорусский рубль не просто девальвируется, а, скорее, валится. Если немного раньше он падал к доллару и евро, но укреплялся к российскому рублю и за счет этого удерживались его позиции к валютной корзине, то результаты последних торгов показывают ослабление белорусской денежной единицы ко всем валютам. Так, в четверг 6 сентября курс доллара поднялся до 2,12, евро – до 2,47 белорусского рубля. Российский рубль вырос до 3,11 рубля за свою сотню. К валютной корзине наш рубль ослаб на 0,34%. На биржевых торгах 7 сентября падение «зайчика» продолжалось: 2,14 за доллар и 2,49 за евро. Российская денежная единица немного сдала – 3,10. Лихорадка российского рубля явно перекидывается на рубль белорусский. Если так пойдет и дальше, то белорусский рубль может перекрыть и максимум своего падения к доллару в феврале 2016 года, когда за «американца» давали 2,20.

До сих пор Нацбанк бравировал, что он напрямую не вмешивается в процесс курсообразования на БВФБ, что курсы белорусской денежной единицы равновесные, то есть их формирует рынок в зависимости от спроса и предложения на валюты. Действительно это было так, и рубль был стабильным. До того момента, когда США начали санкциями атаковать российскую денежную единицу. На сегодня реально этих санкций пока нет, они еще впереди. Но психологического фактора – только объявления этих санкций – оказалось достаточно для падения курса российского рубля. Нерезиденты стали в спешном порядке избавляться от облигаций российского Минфина и от акций ведущих российских компаний. Коварность американских санкций в том, что они начнут распространяться на любые страны и компании, которые к ним не примкнут.

Чтобы поддержать курс своей денежной единицы, Центробанк Российской Федерации отказался от приобретения валюты для Минфина на Московской бирже до конца сентября и теперь задумывается о повышении ключевой ставки в ближайшие дни. Падение российской валюты бьет рекорды независимо от динамики мировых цен на нефть. Того и гляди «деревянный» преодолеет планку в 70 денежных единиц за доллар и 80 за евро.

Накануне Путин объявил крестовый поход против доллара, агитируя государства, которые не ладят с США, перейти во взаимных расчетах на национальные валюты. Россия в спешном порядке уходит от участия в госдолге США, избавляясь от американских казначейских облигаций, и наращивает золотую составляющую своих резервов. Только в июле Центробанк РФ купил 26,1 тонны. Тем самым Россия думает смягчить для себя последующие более жесткие санкции. Но если посредством доллара осуществляется около половины мировых расчетов, то, например, доля китайского юаня в них всего 1,8%. Потому как доллар остается непререкаемой мировой валютой №1. За него на мировом рынке приобретешь все и везде. А обладая национальной валютой партнера, можешь рассчитывать только на его рынок.

Вредность отставания девальвации белорусского рубля от российского хорошо показал конец 2014 года, когда наши экспортеры, особенно аграрный сектор, подсчитывали потери на сотни миллионов долларов.

Но стоит ли белорусскому рублю бежать за своим российским собратом, который может не на шутку разойтись, когда американские санкции реально вступят в силу? Разбежишься с девальвацией – получишь соответствующую инфляцию со всеми вытекающими. Мы уже это неоднократно проходили.

Надо полагать, в коридорах Нацбанка сейчас неспокойно. До сих пор его курсовая политика основывалась на сглаживании резких колебаний валютных курсов рубля, которых, собственно, на бирже и не было. Самый действенный инструмент удержания национальной денежной единицы от обвального падения – это валютная интервенция. В свое время, когда курс белорусского рубля был еще не так устойчив, главный регулятор говорил о точечной интервенции для поддержания его стабильности. Но были времена (скажем, январь-февраль приснопамятного 2011 года), когда Нацбанк выставлял на торги из золотовалютных резервов сотни миллионов долларов, чтобы уравновесить спрос и предложение на бирже. И сжег их, как дрова в топке, почти все. В настоящее время наши золотовалютные резервы, как всегда, на минимуме, они едва покрывают двухмесячный импорт. Надо же погашать государственный долг, который набегает в этом году на 3,7 миллиарда долларов. К тому же ЕАБР все тянет с выделением двух последних траншей двухмиллиардного кредита по 200 миллионов долларов каждый. Если первый ждут в конце сентября, то второй – только в конце года. Пойдет ли Нацбанк на вмешательство в биржевые торги или будет по-прежнему созерцать тревожную ситуацию? Как тут не припомнить слова заместителя главы Нацбанка Калечица, который заявил, что при снижении курса белорусского рубля к доллару на 1% потери предприятий от переоценки валютной кредитной задолженности белорусским банкам составят 230 млн рублей, потери бюджета от переоценки внешнего долга – 330 млн рублей.

Во всяком случае с нашими валютными резервами главному регулятору на бирже не разогнаться. Можно легко сломать график выполнения наших обязательств перед внешними кредиторами. Остается уповать на то, что российский Центробанк предпримет экстренные меры по удержанию своей национальной валюты. У России с ее запасами нефти и газа валютных резервов вполне достаточно. И опять нам придется вспомнить об огромной финансовой и валютной зависимости Беларуси от России. Которая не только не ослабла, а вопреки заверениям власти только усиливается.

ФАКТ



# Цены на бензин будут зависеть от мировых цен на нефть?

*9 сентября в 15-й раз с начала года в Беларуси подорожало автомобильное топливо. Снова на 1 копейку.*

«Белнефтехим» уточнил: цена нефти для белорусских НПЗ за семь месяцев 2018 года по отношению к аналогичному прошлогоднему периоду выросла на 35%, но при этом нефтепродукты, реализуемые на внутреннем рынке, подросли в цене только в среднем на 14%. Кроме того, представители нефтеперерабатывающей отрасли не перестают напоминать, что Госдума Российской Федерации одобрила налоговый маневр в нефтяной отрасли России, который будет реализовываться в 2019–2024 годах. То, чем это чревато для Беларуси, доходчиво объяснил замминистра финансов нашей страны **Дмитрий Кийко**. *«Если мы будем функционировать в рамках налогового маневра, а наши партнеры, конкуренты будут пользоваться субсидиями, то у нас сложится непропорциональный рынок топлива. У нас в этом случае стоимость топлива намного будет превышать стоимость топлива в России».*

И это еще не все. В последнем выпуске вестника, издаваемого концерном «Белнефтехим», было опубликовано интервью зампредседателя концерна **Владимира Сизова,** в котором он отметил, что в Беларуси ведется разработка механизма, в случае внедрения которого цены на топливо на внутреннем рынке будут зависеть от динамики цен на нефть.

КОММЕНТАРИЙ

## «Белорусы должны быть к этому готовы»

К тому, что цены на бензин в Беларуси существенно вырастут, население готовят несколько последних месяцев. Еще в мае белорусов предупреждали о возможном 24%-ном (!) повышении цены на топливо. Но насколько реально может подорожать бензин? Например, может ли случиться, что топливо на белорусских АЗС будет продаваться по такой же цене, как, например, на польских или литовских?

За комментарием мы обратились к экономисту, директору исследовательского центра ИПМ **Александру Чубрику**.

– Пока понятно только то, что цена на бензин на внутреннем рынке страны будет меняться вслед за ценой на нефть, – заметил эксперт, – но как это будет происходить – по какой формуле, будет ли введен некий переходный период – могут знать только в «Белнефтехиме».

**– На ваш взгляд, до конца этого года серьезных подъемов в цене стоит ожидать? Все же резкого 24-процентного подорожания не произошло, хотя население и пугали. Власти все же берегут наши кошельки…**

– Берегут скорее наши нервы. Никому не нужны разные недовольства, социальные протесты. А так подорожало топливо на 1 копейку – ну и ладно, неловко как-то возмущаться. А то, что с конца года натикало уже 15 копеек, – это не так и мало, если учесть, что, например, АИ-92 стоил 1 рубль 19 копеек, а теперь – 1 рубль 34 копейки.

Но мы должны понимать, что все эти ценовые колебания – не чья-то прихоть, это объективная реальность. Если нефть начнет для нас дорожать, то возникает вполне логичный вопрос: а почему на внутреннем рынке нефтепродукты должны стоить дешево? Мы не Венесуэла, не Азербайджан, не Россия. Беларусь – не нефтедобывающая страна, поэтому логично ожидать, что темпы роста цен на автомобильное топливо будут зависеть от того, как будет дорожать цена на нефть. Альтернатива этому только одна: брать деньги из бюджета и субсидировать тех, кто ездит на машинах. Но насколько это справедливо? Получается, что налоги платят все, а дешевый бензин получают только транспортные компании и автолюбители.

Кроме того, давайте посмотрим на всю эту ситуацию с долгосрочной точки зрения. Когда в Беларуси введут в строй АЭС, встанет вопрос, что делать с электроэнергией, которой будет производиться в избытке. Поэтому вполне логично на государственный уровень выходит тема электромобилей, их продвижения на рынок страны. В планах к 2022 году наладить в Беларуси выпуск китайских электромобилей. И если до этого времени вырастут цены на топливо, людям не надо будет объяснять, что мы повышаем цену на бензин, чтобы вы пересаживались на электромобили.

Вывод один: цены на бензин будут расти, и белорусы должны быть к этому готовы.

В ТЕМУ

## Сколько стоит бензин в других странах?

«Народная Воля» решила посмотреть, сколько платят за литр 95-го бензина и литр дизельного топлива жители соседних с нами и не только стран.

Понятно, что уровень жизни, доходы населения в этих странах могут находиться на совершенно ином уровне, чем в Беларуси. Поэтому в таблице рядом с ценами на автомобильное топливо привели размер средней заработной платы за июнь 2018 года. Для удобства цены и зарплаты указаны в долларах США.

| Страна | Цена за литр бензина АИ-95-К5 | Цена за литр диз.топлива | Размер средней заработной платы |
|---|---|---|---|
| Беларусь | 0,65 | 0,65 | 470 |
| Россия | 0,65 | 0,64 | 710 |
| Казахстан | 0,47 | 0,51 | 480 |
| Украина | 1,07 | 0,99 | 326 |
| Литва | 1,4 | 1,31 | 1030 |
| Латвия | 1,5 | 1,41 | 1150 |
| Польша | 1,36 | 1,35 | 1270 |
| Чехия | 1,49 | 1,44 | 1405 |
| США | 0,84 | 0,86 | около 3000 (средняя почасовая оплата составляет 26 долларов) |
| Япония | 1,37 | 1,18 | 3500 |

**Мария ЭЙСМОНТ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Генадзь ФЯДЫНІЧ: «Нават мая 83-гадовая цешча да гэтага часу не можа прыйсці ў сябе…»

Днямі старшыня незалежнага прафсаюза РЭП **Генадзь Фядыніч** і галоўны бухгалтар арганізацыі **Ігар Комлік** падалі апеляцыйныя скаргі на прысуд, вынесены ім 24 жніўня 2018 года, паводле якога іх прызналі вінаватымі па ч.2 арт.243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (ухіленне ад выплаты падаткаў у буйным памеры).

Суд Савецкага раёна асудзіў кіраўнікоў прафсаюза РЭП на 4 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу з забаронай займаць кіруючыя пасады тэрмінам на 5 гадоў.

– Пасля вынясення прысуду быў час прааналізаваць і сам працэс, і тую сітуацыю, што склалася вакол нас, – кажа **Генадзь ФЯДЫНІЧ**. – Усе адвакаты, якія сачылі за “справай прафсаюза”, прыйшлі да адной высновы: фактычна ніякіх доказаў ні ў следчых, ні ў пракуратуры для вынясення прысуду не было. Мы і раней былі ў гэтым упэўнены, але ж зараз ранейшыя здагадкі пацвердзілі і прафесійныя юрысты.

Дарэчы, нашы калегі з замежных прафсаюзаў таксама дэталёва азнаёмлены са справай і зараз патрабуюць, каб пачала працаваць камісія, якая расследавала б парушэнні правоў незалежных прафсаюзаў у Беларусі. Калі ж прысуд не будзе зменены, гаворка ўжо будзе ісці аб з’яўленні ў краіне новых палітвязняў. Патрэбна гэта ўладам? Няхай самі вырашаюць.

**– У якасці доказу віны фігуравала копія выпіскі з літоўскага банка аб зняцці грошай з рахунку, якую сілавікі здабылі аператыўным шляхам…**



– Я наогул не разумею, як нейкая копія можа лічыцца ў судзе афіцыйным дакументам? Чаму не прад’явілі паперы, якія былі б афіцыйна пацверджаны тым самым літоўскім банкам? Любая копія – не больш чым звычайная паперка. У той жа час пракурор палічыў праўдзівым і дапусцімым доказам копію выпіскі. І гэтую фількаву грамату легалізавалі праз следчых і суд.

**– Падчас працэсу сакратар прафсаюза РЭП Юлія Юхнавец, якая працавала ў арганізацыі з 2014-га па 2016 год, прызналася, што была агентам КДБ. Гэта для вас не стала шокам?**

– Мяне як кіраўніка арганізацыі, безумоўна, уразіла такая інфармацыя. Дарэчы, да таго, як Юхнавец прыйшла да нас на працу, на яе месцы працавала іншая дзяўчына, і яе таксама спрабавалі завербаваць сілавыя структуры. Але там чалавек аказаўся сумленным, таму яна прыйшла да мяне і шчыра ўсё распавяла.

Што тычыцца Юліі Юхнавец, то мне яе шкада. Чалавек зламаў сабе лёс, хаця я і не ведаю, як яе падчапілі на кручок.

**– Хатняя “хімія” – гэта таксама не падарунак лёсу…**

– Безумоўна, бо “хімія” лёгка можа трансфармавацца ў рэальны тэрмін адбыцця пакарання. Вельмі лёгка атрымаць ад адпаведных органаў тры заўвагі за год. А там жа даволі шмат абмежаванняў. Пасля працы трэба знаходзіцца дома, у выхадныя і святочныя дні як быццам зусім нельга пакідаць сваю кватэру. Могуць да цябе прыехаць на працу, каб пракантраляваць, альбо ноччу завітаць дадому…

Адно магу сказаць: ні я, ні Ігар Комлік такіх жорсткіх абмежаванняў не заслужылі. Што, мы такія залачынцы, якія прадстаўляюць для грамадства небяспеку? Нам жа не тое што на мітынг, на канцэрт альбо ў тэатр будзе забаронена хадзіць. На ўсё патрэбны дазвол.

**– Пакуль апеляцыя не разгледжана, гэтыя абмежаванні да вас не ўжываюцца?**

– Не, бо мы яшчэ абскарджваем рашэнне раённага суда. Не думаю, што Мінскі гарадскі суд адменіць папярэдні прысуд, але мы пройдзем усе прыступкі.

**– У прысудзе запісана, што вам на 5 гадоў забаронена займаць кіруючыя пасады…**

– Пакуль я з’яўляюся дзеючым кіраўніком прафсаюза РЭП. Але мы ў арганізацыі абмяркоўвалі розныя варыянты і падрыхтаваны да любога. Калі пакіну афіцыйную пасаду старшыні прафсаюза, то лідарскія якасці ў мяне ўсё роўна ніхто не забярэ. Таму працягну сваю працу. Як яе спыніць, калі на гэта я аддаў практычна ўсё жыццё?

**– Але афіцыйна ў арганізацыі з’явіцца новы кіраўнік?**

– Старшыня ў нас абіраецца на з’ездзе, але не думаю, што будзем праводзіць яго раней, чым патрабуецца па Статуце, – у 2020 годзе. Па рашэнні кіруючага органа абяром чалавека, які будзе выконваць абавязкі кіраўніка прафсаюза РЭП.

**– Пасля суда ваша жыццё нейкім чынам змянілася?**

– Безумоўна, уся гэтая мітусня накладвае пэўны адбітак і на мяне, і на маю сям’ю. Нават мая 83-гадовая цешча, якую таксама выклікалі на суд і правяралі яе нерухомасць, да гэтага часу не можа прыйсці ў сябе. На працэсе ёй стала дрэнна, і пасля гэтага яна амаль два тыдні была на ўколах. Агідна, што нават па старых людзях б’юць, каб зрабіць і табе больш балюча. Як кажуць, нічога святога…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДЫЯЛОГІ

## Міхась СКОБЛА – Алесь КРАЎЦЭВІЧ

# «У Беларусі змагаюцца дзве плыні ва ўладзе – патрыятычная і прамаскоўская»

*У кніг доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча шчаслівы лёс: «Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага» вытрымала ўжо чатыры выданні, «Рыцары і дойліды Гародні» (з выдатнымі ілюстрацыямі Паўла Татарнікава) неаднойчы годна прадстаўляла кніжны свет Беларусі на міжнародных выставах. За кнігу «Гедымін: каралеўства Літвы і Русі» аўтар быў адзначаны Прэміяй імя Францішка Багушэвіча... На жаль, веды і талент гісторыка з Гродна аказаліся незапатрабаванымі ў Рэспубліцы Беларусь. Чаму так сталася – ён расказаў чытачам «Народнай Волі».*

### «Нас трымалі ў поўнай ізаляцыі ад свайго, падсоўваючы чужое»

**– Алесь, калі ехаць па дарозе Масты–Слонім, то непадалёк ад слыннага мястэчка Дзярэчын мільгае дарожны паказальнік «Лупачы». Гэта твая родная вёска, дзе 13 верасня 1958 года ты і прыйшоў у свет. Якой табе запомнілася твая малая радзіма?**

– Вёска на 40 хат пры самым лесе над Шчарай, была для мяне найлепшай мясцінай для шчаслівага дзяцінства. Бываю там некалькі разоў на год з братамі, дзецьмі, даглядаем родныя магілы, начуем у палатках на беразе ракі. У Лупачах я заўсёды перажываю хваляванне, нейкі светлы сум і літаральна падсілкоўваюся жыццёвай сілай.

**– Калі ты зразумеў, што тваё прызванне – менавіта гісторыя? Пашанцавала на школьнага настаўніка?**

– Сваё прызванне зразумеў даволі позна – дзесьці на трэцім курсе гістфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, куды трапіў, можна сказаць, выпадкова. Марыў у дзяцінстве стаць марскім афіцэрам, паступіў у Гродзенскі тэхнікум фізічнай культуры, каб загартаваць свой арганізм перад ваенна-марскім вучылішчам. Пад канец навучання ў тэхнікуме зразумеў, што савецкія армія і флот – не самыя рамантычныя арганізацыі. Успомніў, што ў школе падабалася гісторыя, і паехаў у Мінск на гістфак БДУ.

**– Там ты вучыўся ў часы, калі ў беларускай гісторыі найбольшым аўтарытэтам лічыўся сумнавядомы Лаўрэнцій Абэцэдарскі. Гэта, вядома, не Якаў Трашчанок, які вучыў будучых гісторыкаў у Магілёўскім пэдінстытуце, але ўсё ж… Тады не было інтэрнэту, не было «Вікіпедыі», не было шасцітомнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і трохтомнай «Гісторыі Вялікага Княства Літоўскага». Дзе вы, тагачасныя студэнты, знаходзілі праўдзівыя звесткі па гісторыі таго ж ВКЛ?**

– На гістфак я паступіў у 1976 годзе, калі Абэцэдарскага ўжо не было ў жывых. Але, так, ідэі яго жылі. Сёння я разумею, што не адзін Абэцэдарскі вінаваты ў фальсіфікацыі беларускай гісторыі. Яго вінаваціць найперш, бо ён быў ці не самай яскравай асобай сярод афіцыёзных гісторыкаў. Пры гэтым выдаў, прынамсі, адну вартасную навуковую манаграфію – «Беларусы ў Маскве XVII стагоддзя». З не меншым імпэтам айчынную гісторыю фальсіфікавалі невыразныя шэрыя чалавечкі накшталт згаданага Трашчанка. Праўдзівых звестак пра нашу мінуўшчыну нам, студэнтам-гісторыкам, не было дзе здабываць, нас трымалі ў поўнай ізаляцыі ад свайго, замест яго падсоўвалі чужое. Напрыклад, на занятках па палеаграфіі вучылі чытаць граматы маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча і нават не згадвалі пра дакументы на старабеларускай мове. Мы не ведалі нічога ні пра бел-чырвона-белы сцяг, ні пра «Пагоню» як нацыянальныя беларускія сімвалы беларусаў. Нас вучылі, што беларусы заўжды былі разам з Расіяй і, хоць фармальна знаходзіліся ў Вялікім Княстве Літоўскім, ніколі не гублялі сувязі з рускімі, чакалі аб'яднання і змагаліся за яго.

**– Дык калі і дзе ты здабываў веды па сапраўднай гісторыі Беларусі?**

– Пасля ўніверсітэта, праз самаадукацыю. Але я ўсё ж удзячны гістфаку БДУ за агульныя веды, за дачыненні з сапраўднымі выкладчыкамі-навукоўцамі. Пасля заканчэння вучобы хоць і атрымаў чырвоны дыплом, але адчуваў, што гісторык з мяне слабаваты. Калі ў аспірантуры сутыкнуўся з выпускнікамі Маскоўскага і Ленінградскага ўніверсітэтаў, то пераканаўся, што яны на галаву вышэй па ўзроўні падрыхтоўкі. І гэта стала добрым стымулам для здабывання новых ведаў. Пазней, калі пазнаёміўся з выпускнікамі гістфака Гродзенскага ўніверсітэта, то зразумеў, што там было яшчэ горш. Бо тыповы выпускнік гістфака ГрДУ (каб не пакрыўдзіць сяброў, зазначу, што сустрэў нямала і выключэнняў) перакананы, што ён у гісторыі ведае ўсё. А гэта – тупік у прафесійным развіцці.

### «За год удалося перавесці на беларускую мову 60% навучання на педагагічных кірунках»

**– Пра гістфак Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы ты можаш меркаваць не з боку, паколькі на пачатку 1990 гадоў працаваў там і нават быў першым прарэктарам. У 1995-м вымушаны быў сысці. А ў які момант ты зразумеў, што з новай уладай кампраміс немагчымы? Што сталася апошняй кропляй, якая зрабіла немагчымым тваё знаходжанне ў ГрДУ?**

– Я стаў прарэктарам на пачатку 1994 года. І амаль адразу пачаліся дзіўныя праверкі, прыходзілі камісіі, складзеныя з некампетэнтных людзей, для якіх я быў знаходкай, бо меў рэпутацыю беларускага нацыяналіста. Калі не маглі знайсці прычэпак да працы, то пісалі пра мяне ў справаздачах «малады і нявопытны» (я быў самым маладым прарэктарам у краіне – у 35 гадоў). Правяральшчыкам патрабавалася ахвяра, і найлепшым кандыдатам была мая асоба – малады, нацыяналіст, занадта актыўны ў беларусізацыі ўніверсітэта (за год удалося ў ГрДУ перавесці на беларускую мову 60% навучання на педагагічных кірунках). Я зразумеў, што мяне чакае звальненне, і дамовіўся з рэктарам, каб папярэдзіў загадзя. І сапраўды, праз пару месяцаў рэктар паведаміў, што ад яго вымагаюць для пачатку панізіць мяне з першага прарэктара да звычайнага. А ў мяне ўжо быў прыгатаваны план: сысці ў дактарантуру на свой родны гістфак. Рэктару спадабалася такая развязка сітуацыі, бо і Краўцэвіча з першага прарэктара прыбраў, і не звольніў, не панізіў. Так я ў 1995 годзе апынуўся ў дактарантуры на гістфаку БДУ. Тады ўжо канчаткова праяснілася, куды нас вядзе існуючая ўлада.

**– Твая галоўная праца – кніга «Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага», чатыры разы перавыдавалася, і ўсё роўна яе нідзе не знайсці. ВКЛ у нас прызнаецца папярэднікам Беларускай дзяржавы (як, дарэчы, і БНР). Але ўсё роўна ў школьных падручніках (я днямі зазірнуў у сынаў падручнік для 6-га класа) пішацца пра Старажытную Русь, хай сабе і з цэнтрам у Кіеве… Якой павінна быць школьная трактоўка Вялікага Княства?**

– Трактоўка ВКЛ для школы даўно выпрацавана нашымі гісторыкамі, яна простая і лагічная: Вялікае Княства Літоўскае – наступны этап гісторыі беларускай дзяржаўнасці пасля Полацкага княства.

**– Ты аўтар папулярных жыццяпісаў вялікіх князёў літоўскіх Міндоўга і Гедыміна. Немалаважна і тое, што выйшлі яны ў двухмоўным варыянце – па-беларуску і па-англійску. Ведаю, што ў цябе былі грандыёзныя планы дожыць гэту кніжную серыю. Але нешта даўнавата не было працягу. Чаму?**

– Тут некалькі прычын. Галоўная – недахоп часу. Трэба карміць сям'ю – я супрацоўнічаю з Варшаўскім універсітэтам. Акрамя таго, шмат часу і сіл забірае мая аўтарская праграма на тэлеканале «Белсат» – «Загадкі беларускай гісторыі».

### «У Беларусі прыдушваецца ўсё, што мае ўплыў на масавую свядомасць»

**– Ведаю, што твая праграма адна з самых папулярных на «Белсаце», які дае выхад на масавую аўдыторыю. У сувязі з гэтым наступнае пытанне. У Беларусі кнігі (невялікім накладам) можна выдаваць якія заўгодна, ну хіба каб на іх старонках не парушаўся дэкрэт №5 (аб абразе гонару і годнасці кіраўніка краіны). Але сярэдняя школа – пад звышпільным кантролем, ВНУ – таксама. На тым жа «Беларусьфільме» немагчыма зняць сапраўды нацыянальнае кіно… Чым прадыктавана такое, мякка кажучы, дваякае стаўленне дзяржавы да ўласнай гісторыі?**

– І школа, і ВНУ, і кіно фарміруюць масавую свядомасць, выконваюць нацыятворчую функцыю. Таму ў нашай краіне ім адведзена іншая роля, бо задача сённяшняй улады ў Беларусі – русіфікацыя. Парадокс, але ўлада фактычна працуе магільшчыкам беларускай нацыі. Хоць сярод чыноўнікаў хапае разумных людзей і патрыётаў, якія хочуць бачыць Беларусь нармальнай еўрапейскай краінай. Гэта яны дапамагаюць ставіць помнікі сапраўдным героям беларускай гісторыі, падтрымліваюць культурніцкія ініцыятывы. На жаль, галоўныя рашэнні прымаюць не яны і, падазраю, нават не Лукашэнка. Рашэнні па русіфікацыі Беларусі, мяркую, прымаюцца ў Крамлі. І потым ажыццяўляюцца праз самыя розныя, у тым ліку эканамічныя, рычагі ўплыву.

**– З аднаго боку – русіфікацыя (асабліва адчувальная ў адукацыі), з другога – прызнанне БНР і ВКЛ, згаданыя табой помнікі вялікім князям, якія з'явіліся адносна нядаўна, – Альгерду ў Віцебску, Усяславу Чарадзею ў Полацку, Давыду Гарадзенскаму ў Гродне. Неўзабаве паўстане конны помнік Гедыміну ў Лідзе. Гэта ўсё прыхаваная дзейнасць чыноўнікаў-патрыётаў?**

– Так, я лічу, што ў Беларусі ідзе сапраўднае змаганне дзвюх плыняў ва ўладзе – патрыятычнай і прамаскоўскай. Апошнюю падмацоўваюць іерархі Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі. Менавіта царква выступала супраць помніка Альгерду ў Віцебску, менавіта царква не дае паставіць помнік Міндоўгу ў Навагрудку. Так, у Беларусі прыдушваецца ўсё, што мае ўплыў на масавую свядомасць. Нельга мець мастацкіх фільмаў па-беларуску, нельга мець беларускай архітэктуры. Таму і з помнікам Альгерду ў Віцебску так доўга валаводзіліся. Перамог здаровы сэнс – паставілі. Нельга ж гісторыю дзяржавы пачынаць ад 1917-га ці 1944 года. Гэта нонсэнс. Людзі шукаюць свае карані. І такая асоба, як Альгерд, можа стаць для Віцебска сапраўды брэндавай фігурай.

Праўда, на кожны новы беларускі помнік адразу ж з'яўляецца помнік-адказ. Скажам, у Віцебску такім «рускім адказам» на помнік Альгерду стаў помнік Аляксандру Неўскаму, усталяваны нават у больш прэстыжным месцы.

### «Гісторыкі пераканалі грамадства, што ВКЛ было нашай дзяржавай»

**– Але і ў Беларускім экзархаце РПЦ не ўсё так адназначна. Наколькі я ведаю, той жа помнік Давыду Гарадзенскаму ў Гродне з'явіўся якраз пры падтрымцы царквы.**

– Тут я згодны. Гродзенскае святарства вызначаецца большым патрыятызмам і адукаванасцю. Але тут галоўным было тое, што гродзенскі ваявода Давыд з XIV стагоддзя быў праваслаўным... Трэба ўвогуле сказаць, што ў адносінах да Вялікага Княства ў нашай краіне апошнім часам заўважны змены. Беларускім гісторыкам удалося пераканаць грамадства, што гэта была наша дзяржава (тое публічна прызнаў і сам Лукашэнка). Сёлета, у юбілейны год, у Інстытуце гісторыі была арганізавана канферэнцыя па гісторыі ВКЛ, упершыню за многія гады.

**– Вернемся, аднак, да помнікаў вялікім князям. Ці выконваюць яны сваю функцыянальную ролю? Вунь Леніны паўсюль стаяць, на іх ужо даўно ніхто ўвагі не звяртае.**

– Выконваюць. Ужо сама прысутнасць помніка выконвае пэўную выхаваўчую і ідэалагічную функцыю. Помнікі звычайна ўсталёўваюцца ў ключавых пунктах гарадоў, людзі ходзяць, бачаць, цікавяцца. У любы момант гэтыя помнікі можна ўключыць у актыўны культурны зварот – сабраць там свята, правесці ўшанаванне гэтай асобы. Чаму супраць помнікаў і змагаецца прамаскоўская частка беларускага чынавенства. Таму важна, каб усталёўваліся помнікі сапраўдным героям Беларусі і менавіта ў такой якасці ўспрымаліся людзьмі. Неяк я ў Варшаве заблукаў у Лазенках і спытаўся ў дзвюх бабулек дарогу да вядомага мне арыенціра – помніка Пілсудскаму. «Юзаф стаіць там, проша пана», – паказала мне кірунак адна з бабулек. Мяне ўразіла, як яна назвала Пілсудскага – па імені, нібыта блізкага чалавека. Вось каб нашы людзі так адносіліся да Кастуся Каліноўскага ці Антона Луцкевіча!.. А Леніны на нашых плошчах – як сімвал фальшывай сутнасці сённяшняй улады, бо ідэалогія яе далёка не камуністычная.

**– Часам у мяне ўзнікае адчуванне, што помнікі паміж сабой варагуюць – на Брэстчыне Касцюшка з Суворавым, у Свіслачы – Каліноўскі са Сталіным, у Гродне – Давыд Гарадзенскі з вялізным Леніным… Той жа Альгерд у Віцебску паўстаў на вуліцы Суворава… Відаць, падобныя помнікі патрабуюць нейкага асяроддзя «пад сябе»? Ці павінна быць ім нейкае «падмацаванне» – у той жа адукацыі?**

– Так, усё павінна быць абавязкова ўзаемазвязана. Ёсць асоба ў падручніку – вучняў прыводзяць да помніка гэтай асобе. Прыгадаю 1990-я гады, тады ўсе дзеці ў Навагрудку ведалі гісторыю Міндоўга. Гэта называецца сістэмнасцю гістарычнай асветы грамадства, якая мусіць складацца з некалькіх ступеняў. Самі па сабе помнікі будуць мець пасіўны эфект, слаба ўплываць на масавую свядомасць. Увогуле я лічу так: Беларусь стане самастойнай дзяржавай, калі ў нас знікнуць помнікі Леніну, вуліцы Суворава, Кірава, Дзяржынскага і г.д. Савецкая тапаніміка ў гарадах ад сталіцы да райцэнтра сведчыць пра раздвоенне свядомасці беларускіх чыноўнікаў. Вельмі дрэнна, што гэткае хваравітае раздваенне навязваецца ўсяму грамадству: людзі, як і ў савецкія часы, павінны аддаваць дзяцей у піянеры, святкаваць 7 лістапада і г.д. Такая раздвоенасць, такі фальш не праходзяць бясследна, яны раз'ядаюць душу, пазбаўляюць людзей пачуцця годнасці.

### «Псеўдарэстаўрацыя забіла душу Мірскага замка»

**– Нядаўна распачалася рэстаўрацыя Крэўскага і Гальшанскага замкаў, Мірскі і Нясвіжскі даўно прымаюць турыстаў. Каб адноўленыя замкі працавалі на ўмацаванне нацыянальнай свядомасці, што там мусіць адбывацца?**

– Як гісторык і археолаг, які вёў раскопкі ва ўсіх названых паселішчах, я лічу, што Мірскі замак знявечаны рэстаўрацыяй, чаго не скажаш пра Нясвіжскі. На Мірскі я не магу глядзець спакойна – псеўдарэстаўрацыя забіла ягоную душу. У Нясвіжы, хоць і бачыш, як з бастыёнаў асыпаецца нядаўна пакладзеная цэгла, тым не менш агульнае ўражанне станоўчае і моцнае. Можна сказаць, што замак Радзівілаў – наш беларускі Вавель. Нядаўна вазіў у Нясвіж сваіх сямейнікаў і назіраў за першай рэакцыяй на замкавым падворку. Суцэльнае захапленне! Там у экспазіцыі шмат аўтэнтычных рэчаў, відаць, гэта найперш уражвае. Лічу нясвіжскі гістарычны комплекс музеем №1 у Беларусі. Цікава, што асноўныя (і немалыя) сродкі для закупкі на еўрапейскіх аўкцыёнах сапраўдных гістарычных рарытэтаў дала Адміністрацыя прэзідэнта. Гэта было ў часы, калі ў казну яшчэ плылі нафтадолары. Што да Крэва і Гальшан, то там хочацца спадзявацца на больш якасную рэстаўрацыю, чым у Старым замку ў Гродне.

**– Нядаўна, 8 верасня, чарговым разам незаўважна мінуў Дзень беларускай вайсковай славы. Як выглядае, улады ўсё ж адвучылі беларусаў адзначаць гэтую дату на Крапівенскім полі пад Оршай. Зааралі тое поле… А што рабіць з датай?**

– 8 верасня ёсць і будзе Днём беларускай вайсковай славы, а калісьці стане чырвоным днём календара – Днём абаронцаў айчыны замест наскрозь фальшывага 23 лютага. Беларускія ўлады самі зрабілі больш вядомай дату 8 верасня – шматгадовымі забаронамі, перашкодамі, рэпрэсіямі супраць яго ўдзельнікаў. Цяпер апамяталіся, спрабуюць замаўчаць, але ўжо позна.

**– У адной са сваіх кніг ты назваў нацыянальным беларускім героем №1 Кастуся Каліноўскага. Калі пацвердзіцца, што на Замкавай гары ў Вільні знайшлі яго парэшткі, дзе іх варта перапахаваць? Вось Адам Мальдзіс у нашай нядаўняй гутарцы прапанаваў Гару Трох Крыжоў у той самай Вільні…**

– Лічу, што Каліноўскі павінен быць пахаваны ў Беларусі. Прычым на самым прэстыжным месцы і з такім разлікам, каб каля яго магілы маглі сабрацца тысячы людзей падчас розных патрыятычных мерапрыемстваў, напрыклад, прыняцця школьнікаў у скаўты-каліноўцы. Магіла ў Літве, адрэзаная ад нас візавым рэжымам, усё ж выпадзе з беларускага кантэксту. Літоўцы, мяркую, будуць зацікаўлены ў тым, каб культавая для беларусаў магіла знаходзілася не ў Вільні-Вільнюсе – даўнім цэнтры беларускага руху.

### «Наша насельніцтва прыстасоўваецца да рэалій»

**– Вось запавет Кастуся Каліноўскага беларускаму народу: «Жыві ў праўдзе, жыві ў свабодзе». Здаецца, так проста – у праўдзе і свабодзе. Няўжо наша грамадства яшчэ не дарасло, каб жыць паводле гэтага запавету?**

– Дарасла толькі найбольш адукаваная частка грамадства. І гэта адна з нашых галоўных праблем – падзел інтэлігенцыі на патрыётаў этнічных (беларускамоўных) і палітычных (рускамоўных). Я адназначна належу да этнічных – не чытаю рускамоўнай беларускай прэсы, не даю інтэрв'ю на рускай мове для беларускіх выданняў. Лічу недарэчным, калі аўтар, грамадзянін Беларусі, піша ў беларускім выданні пра беларускага пісьменніка па-руску. Гэта якраз і ёсць «жыць не ў праўдзе». Дзіўлюся, калі аўтар таго не разумее і адказвае: «А какая разница?» Што датычыць масы насельніцтва, дык яна, як і ва ўсім свеце, прыстасоўваецца да рэалій. Добра ў свой час сказаў Янка Брыль: калі б начальства загадала беларусам быць беларусамі, якія б выдатныя беларусы атрымаліся! Таму наша галоўная задача – прывесці да ўлады такое начальства.

**– Здаецца, раней у цябе быў даволі строгі графік – мінімум дзве старонкі ў дзень. А як цяпер? Што сёння на тваім працоўным стале і што адпраўлена на «варштат Скарыны»?**

– Відаць, калісьці я пераацаніў свае сілы. Цяпер, на жаль, і старонку арыгінальнага тэксту напісаць не штодня выпадае. Галоўны праект на сёння – сінтэз гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Напісаў ужо дзве кнігі, давёў аповед да канца гаспадарання Альгерда. На чарзе наступная – пра крызіс улады і змаганне між Ягайлам і Вітаўтам. А да друку рыхтуецца чарговая кніга з серыі «Жыццяпісы вялікіх князёў літоўскіх» – пра гаспадароў ад Войшалка да Віценя, з выдатнымі ілюстрацыямі, а таксама зборнік выбраных навуковых прац, напісаных за апошнія 30 гадоў. Трэба плённа скарыстоўваць кожную хвіліну жыцця, яно такое кароткае… 60 гадоў – цудоўны ўзрост, бо, дзякуй Богу, яшчэ ёсць здароўе і ўжо ёсць жыццёвы вопыт. Ведаеш, чаго ты хочаш і чаго варты. Дарога па жыцці абрана, не губляеш час на яе пошукі, сумневы і блуканні. Толькі наперад!

Народная Воля http://www.nv-online.info
11 ВЕРАСНЯ 2018 г.

НУ І НУ!

## Знік памятны знак



Драўляная стэла з крыжам і шыльдачкай з надпісамі: "Айчына абаронцам сваім", "Беларусь перадусім" была ўсталявана на месцы пахавання паўстанцаў 1863 года побач з вёскай Пацэвічы ў Мастоўскім раёне два тыдні таму грамадскімі актывістамі Гродзеншчыны.

Стэлу паставілі побач з валуном, які ў свой час усталявалі сябры Саюза палякаў. І вось – стэла знікла.

Актывіст **Сяргей Верамеенка** кажа, што памятны знак паўстанцам папросту выкапалі з зямлі. Ніякіх слядоў, хто гэта зрабіў, не засталося.

*"Праўда, мушу сказаць, што гэта рабілі не адзін і не два чалавекі,* – заўважае Верамеенка. – *Удвох такога не зробіш, і потым саму стэлу трэба было на нечым вывезці".* Вышыня стэлы – больш за тры метры.

Паводле слоў актывіста, у міліцыю яны не звярталіся і яшчэ не вырашылі, ці ёсць сэнс гэта рабіць, паколькі ўсталявалі стэлу без дазволу мясцовых улад.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На здымку:** *Памятны знак паўстанцам 1863 года, які стаяў у вёсцы Пацэвічы Мастоўскага раёна.*

СПАДЧЫНА

# Гродзенскі лямус вяртаецца…

*На тэрыторыі Брыгіцкага кляштара ў Гродне адбыліся два этапы рэстаўрацыі старога лямуса – унікальнага помніка архітэктуры, які на працягу многіх гадоў можна было пабачыць толькі на здымках альбо з-за высокага плота.*





### Пабудаваны без адзінага цвіка

Унікальны лямус у Гродне пабудаваны на бутавым падмурку з масіўнага бруса ў традыцыях беларускага народнага дойлідства – без адзінага цвіка: усе ягоныя канструктыўныя элементы звязаны ўсечкамі і драўлянымі клінамі. Дагэтуль захавалася аўтэнтычная двух'ярусная арачная галерэя з балюстрадай.

У гістарычных крыніцах гаворыцца, што другі паверх лямуса выкарыстоўваўся манахінямі кляштара для жылля, а першы – у гаспадарчых мэтах.

На жаль, пакуль не ўдалося ўстанавіць дакладны год пабудовы ўнікальнага будынка. Паводле некаторых крыніц, ён датуецца 1630 годам, але існуе меркаванне, што лямус збудавалі ў другой палове XVIII стагоддзя.

У 1950 годзе лямус разам з касцёлам і кляштарам былі зачынены савецкай уладай і перададзены на баланс псіханеўралагічнага диспансера. З тае пары гродзенцы маглі бачыць лямус толькі на здымках у даведніках альбо на паштоўках, а вось магчымасці, скажам, сфатаграфавацца побач з унікальным у Беларусі помнікам архітэктуры не было.

Афіцыйнае вяртанне вернікам лямуса разам з кляштарам і Брыгіцкім касцёлам адбылося толькі ў 2003 годзе. Лямус уключаны ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Аднак нават не ўсе гродзенцы ведаюць, дзе ён знаходзіцца.

### Дапамагла Польшча

Пасля вяртання Брыгіцкага касцёла і кляштара каталіцкім вернікам паўстала пытанне аб рэстаўрацыі гэтых помнікаў архітэктуры, а таксама лямуса на тэрыторыі кляштара. У вернікаў сродкаў на гэта не было, а беларускія ўлады зацікаўленасці не выяўлялі.

**Гражына Шалкевіч,** адміністратар інфармацыйна-турыстычнага цэнтра пры Гродзенскай дыяцэзіі, згадвае, што кіраўніцтва дыяцэзіі вымушана было звярнуцца з хадайніцтвам аб дапамозе да Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы. Польскі бок пагадзіўся дапамагчы, гэта пытанне было ўзгоднена з Міністэрствам культуры Беларусі. Распрацавалі тэхнічную дакументацыю. Рэстаўрацыйныя работы па аднаўленні лямуса пачаліся ў 2016 годзе.

Было вырашана, што за выкананне работ па рэстаўрацыі адказвае польскі бок. У праекце задзейнічаны архітэктары, інжынеры, праекціроўшчыкі, кваліфікаваныя спецыялісты ў галіне драўлянага дойлідства, гістарычных тэхналогій будаўніцтва. Акрамя гэтага, расходы па рэстаўрацыі ўзяло на сябе Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы. Польскія спецыялісты ўзгадняюць усе рабочыя моманты з беларускімі калегамі з "Гроднаграмадзянпраекта".

Спадарыня Гражына распавяла, што польскія эксперты, выкарыстоўваючы метад дэндрахраналогіі, паспрабуюць вызначыць сапраўдны ўзрост збудавання. Паводле некаторых сведчанняў, лямус некалькі разоў гарэў і адбудоўваўся нанова. Але польскія спецыялісты адзначаюць, што, нягледзячы на пашкоджанні, аб'ект захаваўся ў даволі добрым стане.

### Два этапы рэстаўрацыі

Спадарыня Гражына распавяла, што рэнавацыю будынка пачалі знізу ўверх: *"На першым этапе рэстаўрацыі ачысцілі будынак ад смецця, выкінулі печкі і іншыя самабуды, якія з'явіліся тут у савецкі час, знялі з драўляных сцен дранку і тынкоўку, умацавалі падмуркі, замянілі вянцы. Падчас другога этапу быў разабраны дах: зняты стары гонт, заменена апалубка. Адмысловцы адрамантавалі апоры даху, умацаваўшы кроквы дошкамі, якія былі апрацаваны ад шкоднікаў і абаронены ад цвілі. Урэшце накрылі дах будынка адмысловым тэнтам".*

Галоўнае, паводле слоў спадарыні Гражыны, тое, што ўмяшанне ў арыгінальную структуру будынка абмежавана да мінімуму, каб захаваць унікальны выгляд аб'екта.

### «Хочам, каб турысты атрымлівалі асалоду ад унікальнага помніка»

Хоць па аднаўленні лямуса зроблена шмат, але казаць аб тэрмінах заканчэння рэстаўрацыі пакуль не даводзіцца. Усё залежыць ад наяўнасці сродкаў.

Гродзенская дыяцэзія зацікаўлена, каб лямус як мага хутчэй стаў даступным для турыстаў. Вакол яго ачышчана тэрыторыя, спілаваны старыя дрэвы, скошана трава, каб можна было спакойна падысці і зрабіць здымак.

*"Мы хочам, каб турысты хадзілі тут, атрымлівалі асалоду ад гэтага ўнікальнага помніка архітэктуры, фатаграфаваліся побач з лямусам",* – дзеліцца планамі адміністратар інфармацыйна-турыстычнага цэнтра пры Гродзенскай дыяцэзіі.

Паводле слоў Гражыны Шалкевіч, у пямяшканні лямуса плануецца зрабіць музей Гродзенскай дыяцэзіі, каб шмат цікавых унікальных экспанатаў сталі даступнымі жыхарам Гродна і турыстам.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

***Фота аўтара.***

ЧУЛІ?

## Купіць білет на «Чэлсі»

*Сёння стартуе другі этап рэалізацыі білетных пакетаў на хатнія матчы барысаўскага БАТЭ ў групавым раўндзе Лігі Еўропы па футболе.*

Нагадаем, што барысаўчане на сваёй арэне згуляюць з грэчаскім ПАОК (4 кастрычніка), англійскім "Чэлсі" (8 лістапада) і венгерскім "Відзі" (29 лістапада).

З 11 верасня білетныя пакеты могуць набыць усе жадаючыя.

На асобныя матчы квіткі будуць каштаваць ад 20 да 110 рублёў, кошт білетных пакетаў (на тры матчы) – ад 85 да 180 рублёў.

**Віктар ШПАК.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

### Не пашанцавала з ноўтбукам

*Купіў ноўтбук, ён ужо два разы быў у гарантыйным рамонце. Няспраўнасць была адна і тая ж. Ці можна яго абмяняць на ноўтбук іншай мадэлі тагоў ж кошту ў тым жа магазіне?*

**Валянцін БЯГУН, г.Жодзіна.**

– Пры неабходнасці рамонту, калі ў працэсе работы выяўляюцца адны і тыя ж дэфекты, то гэта істотны недахоп. А значыць, тавар можна замяніць на іншы.

### Што рабіць, калі экспертыза зацягнулася

*Аддалі фотаапарат на экспертызу. Прайшло два месяцы, а нам ніхто не тэлефануе. Ці можам мы патрабаваць вяртання грошай за апарат ці яго абмену?*

**Сяргей ЗАЛЕСКІ, г.Маладзечна.**

– Калі вы аплацілі экспертызу, то трэба дачакацца заключэння. Пасля таго як яго атрымаеце, можаце абмяняць фотаапарат альбо атрымаць грошы.

### Фен не падабаецца

*Набыла фен, але ён не адпавядае характарыстыкам, пазначаным у пашпарце тавару, і хутка награваецца. Ці можна вярнуць ці абмяняць фен?*

**Алена НАВУМАВА, Магілёў.**

– Калі тавар не адпавядае характарыстыкам, пазначаным у пашпарце, то яго можна замяніць.

### Каляска з дэфектам

*Набыла дзіцячую каляску, праз два дні вярнула яе ў магазін, бо знайшла дэфект. Прызналі вытворчы брак, прапанавалі абмяняць на такую ж мадэль. Але я хачу вярнуць грошы. Ці можна адмовіцца ад абмену?*

**Марыя ФІЛІПОВІЧ, Вілейскі раён.**

– Згодна з законам, можна абмяняць тавар альбо забраць назад грошы.

### Выйшла са строю пральная машына

*Набылі пральную машыну, але праз паўгода яна зламалася. Магазін прапаноўвае рамонт, а мы хочам вярнуць грошы. Як гэта правільна зрабіць?*

**Жанна ЛЯЎКОВІЧ, г.Рэчыца.**

– Заявіце пісьмовую прэтэнзію аб адмове ад рамонту.

### Вярнуць грошы за відэарэгістратар

*Зламаўся відэарэгістратар. Сам адвёз у сэрвісны цэнтр, але адрамантаваць яго не змаглі, а толькі далі заключэнне. Ці магу я прыехаць у магазін, дзе купляў відэарэгістратар, каб вярнуць свае грошы?*

**Андрэй БАБАК, Мінск.**

– Можаце. Прадастаўце ў магазін экспертнае заключэнне.

### Парасонік не вытрымаў моцнага ветру

*Я гандлюю на рынку. Тры тыдні таму прадала парасонік, а днямі прыйшоў пакупнік і захацеў вярнуць яго назад. Маўляў, парасонік зламаўся ад ветру. Грошы, натуральна, я аддала як за няякасны тавар, але ці варта было гэта рабіць? Ці нашым баку праўда?*

**Святлана СТАНКЕВІЧ, г.Маладзечна.**

– Вы паспяшаліся вярнуць грошы, бо пакупнік ужо згубіў гарантыйныя правы.

### Разбіла тэлефон

*Экран тэлефона разбіла я сама, але пасля гэтага апарат яшчэ доўгі час працаваў. Зараз з экрана пачала знікаць карцінка. Ці можна здаць тэлефон на рамонт па гарантыі?*

**Марына ДАРОШЧАНКА, Віцебск.**

– Не можаце. У гэтай сітуацыі ў вас згублены гарантыйныя правы.

### Зламаўся планшэт на гарантыі

*Зламаўся планшэт на гарантыі, але гэта мая віна. Што рабіць? Нідзе адрамантаваць не могуць. Магазін можа яго адправіць вытворцу, каб адрамантавалі за мае грошы?*

**Аляксандр КРЫЛОВІЧ, г.Кобрын.**

– Працаздольнасць планшэта адновяць пад заказ у любым спецыялізаваным сэрвісным цэнтры.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

# «Жить иначе? Тогда уж и вовсе не надо…»



Алла Левина – коренная минчанка. Закончила Минский институт иностранных языков, работала переводчиком, педагогом, экскурсоводом, библиотекарем. И всю жизнь, с ранней юности, писала стихи. Рыгор Бородулин в своих дневниках называет ее «выдатнай паэтэсай». Он пытался в начале 1990-х годов содействовать выпуску ее сборника в государственном издательстве, но ничего из этого не вышло. Что тут повлияло? Преобладание минорных нот в поэзии Аллы Левиной? Или то, что автор оказался чересчур скромным человеком, как говорят, непробивным? Что теперь об этом толковать. За десятки лет поэтической работы у Аллы Левиной не вышло ни одной книги стихов. И только сейчас известный издатель Змитер Колос выпускает ее первый сборник.

Но было бы неправильным утверждать, что имя Аллы Левиной не известно ценителям подлинного поэтического слова. Напротив, есть немало поклонников ее дара. Все эти годы она писала стихи, совсем не заботясь об их публикации. Она читала их в дружеских компаниях, на литературных вечерах, куда ее приглашали, отдавала в журналы, альманахи и сборники, если просили. Что, впрочем, случалось не так часто.

Если говорить о характерных чертах поэзии Аллы Левиной, невозможно в первую очередь не сказать о том, что ее отличают высокая сосредоточенность и взыскательность нравственного начала, свое, выстраданное понимание личности, ее прав, ее свободы. Оно неизменно связано со стремлением с максимальной откровенностью донести до читателя свое слово. Размышления философского порядка и созерцание самой обыденной жизни словно растворены в ее лирике, являющей собой по сути свободно льющийся монолог, в котором преобладает жажда откровенного разговора с читателем-современником. В разговоре этом нередок своего рода обмен впечатлениями, где явственно ощутимы запахи природы, краски времен года, встают, словно ожившие старые рисунки, улицы послевоенного Минска. «Минский след» и связанная с ним никак не отпускающая память – естественные мотивы поэзии Аллы Левиной.

Давних и новых читателей стихов Аллы Левиной ждет встреча с поэтом, голос которого подкупает неподдельной искренностью, соединенной с исповедальной интонацией. Даже для не очень искушенного в поэзии слуха ясно: эти стихи – настоящее, это та поэзия, которая завораживает и вводит в свой мир. Очевидна связь творческой стихии Аллы Левиной с классической традицией русской поэзии, в которой Слово является наивысшим откровением и наивысшей тайной. Ее поэзия выросла, сформировалась и приобрела самостоятельность на том плодотворном поле литературы, где преобладают до предела обостренные чувства любви, боли, памяти. Она близка нам этим тревожащим душу родством и вместе с тем глубоко личной, доверительной музыкой слова, которая не обманывает.

**Семен БУКЧИН.**

*Алла ЛЕВИНА*

Книжки записные собирала,
Желтые тетрадные листки –
Сколько их когда-то исписала,
Сколько в них когдатошней тоски!

И зачем-то это все хранилось
В глубине немодного стола.
Ключ нашелся, дверка отворилась,
Здравствуй та, которой я была.

Телефонов номера, записки –
Без имен, а почерк не узнать!
Думалось, что в старости неблизкой
Будет время все перечитать.

Будет время жизнь прожить сначала,
Прежним чувством душу оживить,
Все понять, чего не понимала,
И себе себя же объяснить.

Только, опровергнув ожиданья,
Жизнь промчалась,
будто краткий миг.
И осталось не воспоминанья,
А лишь давней юности тайник.

***

Уходит старый Минск.
И старые минчане
Уходят вместе с ним,
А мы глядим им вслед
Растерянной душой,
Сиротскими очами
С беспомощной тоской
По тем, кого уж нет.

Уходит старый Минск.
Ну где его приметы?
В развалинах каких
Его проглянет лик?
Уходит старый Минск,
Как угасает лето,
И нам не удержать
Тепла последний миг.

Уходит старый Минск.
И мы уходим тоже.
И каждый новый день
Тот приближает час,
Когда за горизонт
И мы шагнем, быть может,
И Вечность распахнет
Объятия для нас.

***

Ровесники уходят навсегда,
И нет страшнее этого ухода.
О, до чего ж стремительно вода
Течет сквозь пальцы, а верней, сквозь годы.

О, до чего ж песочные часы
Медлительными кажутся в начале,
Там прошлое положишь на весы –
Лишь вздрогнет стрелка, сдвинется –
едва ли.

Ровесники уходят навсегда…
А ты еще все так же строишь планы,
Как строил их в далекие года
Почти забытой юности туманной.

Лишь только, может, осторожней чуть,
Не так уверенно и несколько поспешней,
Боясь признаться: всё короче путь,
Все меньше остается жизни здешней.

Ровесники уходят навсегда…
И суеверный страх пронзает душу:
Кто следующим будет и когда?
А сердце бьется глуше… глуше… глуше…

### Минск на фото 1941 года

О, как это страшно: был город – и вот уже нет его!
И только руины, руины, руины…
И горы камней, и песка, и стекла, и железных
обломков…
Коробки домов, как скелеты,
Пустыми глазницами черных оконных проемов
Глядят в почерневшее небо,
Глядят и не видят…
И пусто – зловеще!
И глухо – зловеще!
И немо – навзрыд, и беззвучно, бесслезно и жутко.
И черное горе удушьем и хваткой смертельной.
Бессильем и острою болью и кровотеченьем…
Что станется, будет, что снова случится с тобою,
О, мой изувеченный и обезлюдевший город?
Смотрю и смотрю я на старый и выцветший снимок,
На город, где нет меня, но предстоит
мне родиться
На улицах этих, названья которых остались
На картах старинных, на давних конвертах
почтовых…
Мой город любимый, где я уже тоже успела
Прожить, как смогла, и почти что состариться даже…
А я все дрожу и дрожу над тобой,
как над малым ребенком,
Гляжу, не дыша, и душою тебя обнимаю.

### Куропаты

Мы дети расстрельных и ям, и лесов,
безымянных могил,
Рвов, бесконечных урочищ, заброшенных
старых карьеров…
И нет никого, кто об этом бы знал, да забыл –
Не стирается память такая, она – наша ВЕРА.
Она – наша БОЛЬ, и она, лишь она –
наша ЖИЗНЬ.
Кто мы без нее – без нее мы
заблудшее стадо…
За эту соломинку-память покрепче держись,
Иначе, как жить? Жить иначе?
Тогда уж и вовсе не надо…
Тогда для чего наступают закат и рассвет,
Тает снег по весне, и опять
распускаются почки?
Если памяти нет – значит, нас и самих уже нет,
Света нет и тепла – лишь одни
беспробудные ночи!
Мы – безвинно погибших внезапно
ожившая кровь,
Неужели позволим им всем
быть убитыми снова?
Неужели позволим подвергнуть
глумлению вновь
Тех, кто корень и ствол наш,
и нашего духа основа?!
Кто не понял еще: все живые сегодня родня!
А погибшие – те уж давно все в земле
побратались!
Нам собой не остаться без них,
не прожить нам и дня –
Раньше нас и деревья, и ямы
о том догадались…

***

Всего-то и надо – немного прохлады,
И легкого ветра нежнейших касаний,
И звездного неба, и тихого сада,
И ночи без ранящих воспоминаний.

Всего-то и надо – за ночью рассвета,
И солнца поярче, и дня подлиннее.
И радостной вести, и слова привета,
И чтобы в дому и на сердце теплее.

Всего-то и надо, чтоб дождь долгожданный
Омыл, напоил, утолил, обнадежил.
Чтоб стихли и крики, и бой барабанный…
А больше чего же нам надо, чего же?

ІНІЦЫЯТЫВА

# Незвычайны праект Андрэя Бурдзянкова



У Гродне ствараецца інтэрнэт-база пахаванняў на гарадскіх могілках з дакладнымі каардынатамі. Дзеля гэтага ўсе магчымыя пахаванні пакуль на старых каталіцкіх могілках аблічбоўваюцца і ўносяцца ў базу дадзеных, з тым каб кожны чалавек у любой кропцы свету мог знайсці патрэбную магілу. Займаецца гэтым адзін энтузіяст, які ў вольны ад працы час прыязджае на гродзенскія могілкі з Мінска.

**Андрэй Бурдзянкоў** *(на здымку)* штодзень працуе гідам-перакладчыкам, возіць экскурсіі па ўсёй Беларусі. Аднойчы яму давялося суправаджаць грамадзян Аўстраліі, якія на могілках у Налібоках шукалі пахаванні сваіх продкаў. Хлопца ўразіла эмацыйная рэакцыя людзей, якія праз некалькі пакаленняў знайшлі магілы сваіх продкаў.

*"Гэтыя пошукі і падштурхнулі мяне зрабіць нашы могілкі online,* – распавядае Бурдзянкоў. – *Я цалкам аблічбаваў могілкі ў Налібоках, і інфармацыю аб пахаваных там людзях можна знайсці праз інтэрнэт".*

Гродзенскія старыя каталіцкія могілкі сталі наступным крокам у ягоным праекце. Могілкі зацікавілі яго тым, што існуюць больш за 200 гадоў і з'яўляюцца аднымі з самых старых у Беларусі. А для таго, каб праект быў яшчэ больш дасягальным для людзей, разам з іншымі праграмістамі Андрэй стварыў дадатак да смартфона, які дазваляе пры здымках аб'екта паказваць дакладныя каардынаты месца і дадаваць апісанні надмагільных пліт.

Пра праект Андрэя Бурдзянкова ведаюць многія, аднак жадаючых дапамагаць няшмат.

*"Я спадзяваўся, што ў Гродне на маю ініцыятыву адгукнецца больш людзей, усё ж горад еўрапейскі, своеасаблівы, але, як высветлілася, не многіх такая работа зацікавіла",* – заўважае Андрэй.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**
**Фота аўтара.**

ФОТО НА ПАМЯТЬ

Владимир ЯПРИНЦЕВ:

# «Космонавты ближе всех к Богу!»

*Известный спортсмен и бизнесмен Владимир Япринцев в аэропорту сделал селфи с космонавтом Петром Климуком.*

Владимир Япринцев подписал фотографию так: *«Поколение Победителей! Вчера посчастливилось сфотографироваться с дважды Героем Советского Союза Петром Ильичом Климуком! Он летел на Родину, в Беларусь. Стал в общую очередь... Люди искренне предлагали пройти вперед... Человек смутился! Друзья мои! Он не надевает кепку, очки… чтобы не узнали... этим Людям нечего стесняться! Они прославляли нашу Общую Родину! Космонавты ближе всех к Богу! Живите долго! Гордимся Вами!»*



Напомним, что Петр Климук – один из участников Международного конгресса Ассоциации участников космических полетов, который будет проходить в Минске до 15 сентября.

*«Я и мои коллеги Владимир Коваленок и Олег Новицкий гордимся, что родились и выросли на белорусской земле, гордимся своей принадлежностью к белорусскому народу и очень рады, что очередная встреча космонавтов и астронавтов проходит именно на нашей родине,* – говорит Климук. – *Конгресс позволит участникам космических полетов не только встретиться, обсудить деятельность ассоциации, наметить задачи на перспективу, но и приобщиться к истории и культуре нашей страны. Пребывание в Минске даст возможность участникам конгресса больше узнать о Беларуси и белорусах. А общение космонавтов с белорусской молодежью – студентами и школьниками – будет нацелено на стимулирование их интереса к образованию, постоянному самосовершенствованию, в том числе с целью освоения космоса.*

*В научно-техническом прогрессе Беларусь не уступает высокоразвитым странам мира. Продукцию, которую выпускают здесь, можно увидеть в разных уголках планеты. Здесь создан спутник связи. Уже более пяти лет на орбите работает спутник дистанционного зондирования Земли. Белорусское предприятие «Пеленг» создает космическую целевую аппаратуру».*

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

# Олег Новицкий пишет книгу

*Причем по инициативе жены!*



*«Космонавты часто ведут блоги во время полетов и пишут книги после возвращения из космоса,* – рассказывает Юлия Новицкая. – *Я давно уговаривала супруга поделиться своими знаниями и впечатлениями после двух полетов. Но из-за большой занятости ему самому заниматься этим некогда. В итоге он согласился с моим предложением о подготовке двух книг, над которыми будем работать вместе: Олег будет наговаривать на диктофон, а мне предстоит расшифровывать запись и готовить текст».*

По задумке супругов, свет увидят две книги: «114 фото 114-го космонавта» и «114 вопросов 114-му космонавту». 114 – порядковый номер Олега Новицкого среди участников космических полетов СССР и России.

*«За два полета муж сделал огромное количество фотографий, которыми хотел бы поделиться. Их не на один альбом хватит. А что касается вопросов – космическая тема столь объемна и многогранна, что и в 114 ее не исчерпаешь»,* – поделилась мнением супруга космонавта.

**Алина ВЕТРОВА.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

Ольга РЫБАКИНА:

# «Мы отпустили друг друга, чтобы стать по-настоящему счастливыми…»

Телеведущий Артем Рыбакин и модель Ольга Никифорова больше не вместе.

О том, все ли хорошо в личной жизни у звездной пары, в последнее время не решались спросить даже близкие друзья. Ясность в этом вопрос внесла сама Ольга.



«Иногда случается так, что два человека должны встретиться, чтобы сделать что-то прекрасное, – написала Ольга в социальных сетях. – Так случилось когда-то с нами. Мы встретились с Артемом, и на свет появилась Ева. Наше чудо и самое лучшее, что случилось в нашей жизни.

Как мама и папа мы состоялись. Но как муж и жена не получилось. Так бывает. Пройдя сложный этап непониманий, обид и разногласий, мы все же нашли в себе силы остаться в добрых отношениях ради нашей дочери и из уважения друг к другу и всему хорошему, что было между нами за годы совместной жизни.

Мы давно поставили точку в наших отношениях и отпустили друг друга, чтобы стать по-настоящему счастливыми…»

Пост собрал более четырех тысяч просмотров и сотни комментариев.

«Лучше быть хорошими родителями, чем плохой парой», – писали в комментариях.

«Артем прелестный отец для нашей дочери», – отметила Ольга.

Напомним что свадьбу Артем и Ольга сыграли в 2014 году.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ЗВЕЗДЫ

Лариса ГРИБАЛЕВА:

# «У меня самый лучший сын!»

*Певица и хозяйка праздничного бюро Лариса Грибалева показала повзрослевшего сына.*



«Он не любит фотографироваться, – *рассказала мать троих детей Лариса Грибалева о характере сына.* – Зато он любит большой теннис. И помогает маме выбрать правильные модные кроссовки. Все говорят, что Арсений – вылитый папа, а я не согласна – это же моя копия, особенно нос. И пусть не обижаются другие мамы, у меня самый лучший сын!»

СЯМЕЙНАЕ КОЛА

# Род Содаляў працягваюць Дамінік і Багдан

*Сям'я пісьменніка рыхтуе кнігу ўспамінаў сяброў, калег і аднадумцаў пра літаратуразнаўцу Уладзіміра Содаля. Умоўная назва – "Буйніцы і драбніцы з успамінаў пра Уладзіміра Содаля". Удава пісьменніка Клара Барысаўна парадкуе архіў рупліўца беларушчыны, захоўвае асобнікі кніг, перагортвае нататнікі, пераглядае фотаздымкі…*

Калісьці 22-гадовы студэнт педінстытута Уладзя Содаль, сустрэўшы ў парку імя Горкага маладзенькую студэнтку тэхналагічнага Клару Караткевіч і ўзяўшы яе за руку, зразумеў, што менавіта з ёю хоча ісці па жыцці. Філфакаўскім дзяўчатам засталося толькі раўнаваць.

У Клары Барысаўны цяпер прыемныя звесткі: унук Содаляў Сяргей Чылікін па заканчэнні ўніверсітэта працуе ў Кракаве. У Сяргея і яго жонкі Наталлі нарадзіўся сын Багдан, якому ўжо 9 месяцаў. Другі праўнук Уладзіміра Ілліча – Дамінік – сёлета пайшоў у першы клас.

У апошнія гады жыцця Уладзімір Ілліч працаваў над сваім радаводам. Запісаў згадкі пра дзеда Паўла, які меў паравы млын, і дужага прадзеда Несцера, які на паляванні аднойчы барукаўся з мядзведзем. А на іншым маленькім аркушыку занатаваў свае пытанні да цётачкі:

*"Цётачка Маня! Вы ў нас засталіся адна на ўсіх. То з кім мне пагаварыць, як не з Вамі? …Ну, найперш якім Вам помніцца даваенны Мормаль? Наша Задзірэўка? Мормальская царква, папоў дом, школа? …Мой тата Ілля, ягоны млын? Пра ўсё гэта я ў Вас пытаюся, бо Вы мяне няньчылі, вазілі ў самаробнай калясцы. Я тую калясачку трохі помню, там адно калёсіка туды-сюды хадзіла…"*

У адной з тэчак вершы, якія пісьменніку прысвяцілі Аркадзь Нафрановіч, Сяргей Давідовіч, Святлана Багданкевіч, а таксама вершык, які для яго напісаў любы ўнук Сержык.



У зжаўцелым блакноце занатавана:

*"У гэты дзень у мяне адбылася сустрэча з Аляксандрам Сталяровым, колішнім старшынёй Беларускага тэлебачання і радыё, зараз – дырэктарам выдавецтва "Беларусь". Не ведаю, што здарылася з ім, але ён быў занадта даверлівы і адкрыты, абдымаў мяне і казаў:*

*– Вы мой настаўнік! – казаў гэта мне і сваім падначаленым калегам. – Глядзіце, што такое выдавецтва "Беларусь" і колькі мы ўсяго навыдавалі! Выбірайце, што хочаце. Хочаце Шаранговіча?..*

*Я быў крануты яго ўвагаю. Трошкі разгубіўся, адмаўляўся ад падарунка, ад гасцінца. Але Сталяроў быў настойлівы:*

*– Ды кіньце вы гэтую сціпласць! Вы ж мой настаўнік! Вы мяне вучылі. Мо я тады не ўсё разумеў, не з усім згодны быў. Але цяпер бачу: Ваша была праўда! Я часта Вас успамінаю.*






*Пасля такой эмацыйнай і нечаканай сустрэчы ішоў я і думаў: "Са спадаром Сталяровым пры нагодзе трэба спаткацца і больш глыбока распытацца, у чым ён лічыць мяне сваім настаўнікам. Ён жа быў старшыня Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні, а я – усяго толькі кіраўніком студыі "Ліцэй".*

*"Сёння 3 сакавіка 2009 года,* – пазначаў у нататніку Содаль. – *Аўторак. Зрабілі вандроўку ва Уручча. Божа! Як змяніўся гэты кут! Колькі тут наляпілі розных забудоў розных стыляў! Аж не верыцца, што калісь тут было поле. Толькі лясныя травы нагадваюць, якія тут былі краявіды. А зараз – уручанскі рынак, аптэка, палац спорту. А саміх Уруччаў колькі … першае, другое, трэцяе, чацвёртае! Няўжо такая наша тапаніміка?! Пацікавіцца, як раней называліся ўручанскія…"*

У верасні сябры ГА "Таварыства беларускай мовы" наведвалі месца апошняга супакою Уладзіміра Содаля на могілках за Астрашыцкім Гарадком, у якім Уладзімір Ілліч калісьці працаваў у дзіцячым санаторыі настаўнікам.

Надпіс на мемарыяльнай пліце пісьменніка складзены з любоўю, якая не скончылася, а працягваецца: *"Вечная памяць любаму мужу, роднаму тату, незабыўнаму дзядулю. Смуткуем, смуткуем і любім цябе".*

**Эла ДЗВІНСКАЯ.**

**На здымках:**

**Жонка пісьменніка зберагае яго творы.**

**Помнік Уладзіміру Содалю на цвінтары за Астрашыцкім Гарадком. Фота аўтара.**

ВІНШУЕМ!

# Золата Ірыны Прасянцовай і Анастасіі Пракапенка

Дзяўчаты радуюцца: яны заваявалі золата ў эстафеце на чэмпіянаце свету па сучасным пяцібор’і ў Мехіка.




ДОСЛОВНО

## Михаил ЗАХАРОВ: «Нам хватит и 10 миллионов долларов»

*Главный тренер минской хоккейной команды “Юность” рассказал, о каком бюджете мечтает.*

В минувшие выходные столичная команда проиграла в Лиге чемпионов на своей площадке немецкому “Мюнхену” – 0:3. После матча главный тренер “Юности” Михаил Захаров пытался найти оправдание поражению…

– У “Мюнхена” только зарплатный бюджет 12 миллионов евро. Везде это написано.

**– А какой бюджет у “Юности”?**

– У нас бюджет в 15 раз меньше, даже в 16.

**– От какой цифры?**

– От 15 миллионов долларов.

**– Вам нужно 15 миллионов долларов, чтобы команда выиграла Лигу чемпионов?**

– Хватит десять, – приводит слова тренера belarushockey.com.



ШАХМАТЫ

## Форум складальнікаў

Завяршыўся буйны міжнародны конкурс складання, які абвясціў да свайго 50-годдзя гомельскі шахматны кампазітар Віктар Зайцаў. У спаборніцтве ўдзельнічалі 247 задач 103 аўтараў з 17 краін. Суддзя-юбіляр адзначыў 65 твораў.

У раздзеле двухходовак (31 задача 27 аўтараў) прызы атрымалі: 1-ы – ***Васіль Дзячук*** (Украіна), ***Павел Мурашоў***, ***Анатоль Слесарэнка*** (Расія); 2-і – ***Міхаіл Храмцэвіч*** (Беларусь); 3-і – ***Чэслаў Якубоўскі*** (Беларусь); 4-ы – ***Валерый Шаньшын*** (Расія).

Шматхадоўкі (у 4–8 хадоў; 39 задач 29 аўтараў): 1-ы прыз – ***Яўген Фамічоў*** (Расія); 2-і – ***Аляксандр Булаўка***, ***Віктар Волчак*** (Беларусь).

Кааператыўныя маты ў 2 хады (70 задач 46 аўтараў): 1-ы прыз – ***Анатоль Скрыпнік*** (Расія); 2-і – ***Віктар Волчак*** (Беларусь); 3-і – ***Валерый Гураў*** (Расія); 4-ы – ***Салман Джавадзадэ***, ***Відадзі Заманаў*** (Азербайджан), ***Вадзім Вінакураў*** (Расія).

Каапматы ў 3 хады (51 задача 41 аўтара): 1-ы прыз – ***Мікалай Калеснік***, ***Валерый Семяненка***; 2-і – ***Васіль Крыжаніўскі*** (усе з Украіны); 3-і – ***Валерый Гураў*** (Расія).

Каапматы в 4–8 ходов (56 задач 32 аўтараў): 1-ы прыз – ***Аляксандр Семяненка***; 2-і – ***Валерый Семяненка***; 3-і – ***Мікалай Калеснік***, ***Валерый Семяненка***. Сярод мініяцюр прыз у ***Мечыслававас Рымкус*** (Літва).

Дзясяткі задач атрымалі ганаровыя і пахвальныя водгукі. Поўныя вынікі конкурсу змешчаны на сайце “Усё пра шахматную кампазіцыю” (ru_chess_art) у якасці спецвыпуску беларускага шахматнага бюлетэня “Альбіна”. У электронным выглядзе жадаючыя таксама могуць атрымаць іх у вядучага шахматнага аддзела “Народнай Волі”.

Задача Ч.Якубоўскага і М.Храмцэвіча ***(гл. дыяграму)*** заваявала трэці прыз.

**Белыя:** Крf3, Фb4, Лd6, Лf8, Cb8, Ce6, Ka4, пg5 (8).

**Чорныя:** Kpe5, Ca6, Ch6, Ka8, Kc7, пп. b6, b7, c4, d3, e7, g6 (11).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030, г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Па новай формуле

Стартавала чарговае, дзявятае, каманднае першынство Беларусі па складанні шахматных кампазіцый. На гэты раз усе рэгіёны склалі дзве каманды: “Захад” (Брэсцкая і Віцебская вобласці, горад Мінск, капітан – Віктар Волчак) і “Усход” (Мінская, Віцебская, Гомельская і Магілёўская вобласці, капітан Віктар Зайцаў). Судзяць турнір замежныя арбітры, а фінішуе першынство восенню.

## «Неўская перамога»

На Мемарыяле В.Карчнога ў Пецярбургу (150 удзельнікаў) перамог Кірыл Ступак, “бронза” ў Аляксея Аляксандрава, а Аляксей Фёдараў – на 11-м месцы. З беларусаў у турніры таксама гулялі Міхаіл Нікіценка і Яна Ільючык. Вось адна з пераможных партый нашага суайчынніка.

***Кірыл Ступак – Міхаіл Яшметаў***

1.d4 Кf6 2.g3 g6 3.Cg2 d5 4.c4 Cg7 5.Кf3 0-0 6.0-0 Кc6 7.Кa3 dc 8.К:c4 Ce6 9.b3 a5 10.a4 Cd5 11.e3 Кe4 12.Ca3 Крh8 13.Лc1 f5 14.Фe2 g5 15.h4 f4 16.ef gf 17.g4 Фd7 18.Кce5 К:e5 19.К:e5 C:e5 20.de f3 21.C:f3 Л:f3 22.e6 Ф:e6 23.Ф:f3 Лg8 24.g5 Фe5 25.Фe3 Лg7 26.f4 Фf5 27.Cb2 Фg4+ 28.Крh2 Кf6 29.Фf2 Ce6 30.f5 Кe4 31.C:g7+ Крg8 32.Фf3 Ф:h4+ 33.Фh3, 1:0.

## Не пакінулі шанцаў

На юнацкім чэмпіянаце Еўропы па хуткіх шахматах у Румыніі залатыя медалі заваявалі ***Арцём Бяляўскі*** (да 10 гадоў), ***Дзяніс Лазавік*** (да 12), ***Максім Царук*** (да 14), сярэбраныя – ***Міхаіл Спіжарны*** (да 12) і ў бліцы – ***Арцём Бяляўскі*** (да 10). У камандным турніры да 12 гадоў дзве беларускія зборныя выйгралі “золата” і “серабро”, а да 18 гадоў Беларусь была чацвёртая з 24 каманд.

## Праверце адказы

Задача ***В.Ваўнейкі і В.Разінкіна*** ад 21 жніўня рашаецца: **1.Кре5**.

Першымі правільна адказалі ***Васіль Жуковіч, Леанід Казырыцкі, Ігар Ананіч, Сяргей Цяльпук, Віктар Жук***.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

ПРАБЛЕМА

# Дзяцей пакінулі без футбола?

*Падставай для напісання гэтага матэрыялу сталі сумныя вынікі праверкі атэстацыйнай камісіяй Упраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама Зэльвенскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, паводле якіх з новага года ў гэтай установе больш не будзе секцыі футбола. Хаця гэты від спорту з’яўляецца адным з самых папулярных у Беларусі не толькі сярод дарослых, але і дзяцей. Ды і многія ў Зэльве задаюцца пытаннем: чаму ў краіне, дзе так актыўна прапагандуюцца спорт і здаровы лад жыцця, дзяржава закрывае папулярны накірунак у спартыўнай школе?*

### Згодна з дзеючым заканадаўствам, спартыўныя школы павінны даваць вынікі

З наступнага года, як высветлілася, закрываецца футбольны накірунак не толькі ў ДЮСШ Зэльвы, а і ў Навагрудку. Прычына ў тым, што аддзяленні футбола ў гэтых спартыўных школах не прайшлі атэстацыю. Дарэчы, у Зэльвенскай ДЮСШ футболам займаўся 121 чалавек.

Старшыня атэстацыйнай камісіі, начальнік аддзела спорту ўпраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама **Аляксандр Дзярнейка** патлумачыў “Народнай Волі”, што прычына неатэстацыі ў спартыўнай школе Зэльвы крыецца ў невыкананні заканадаўства.

Паводле дзеючага заканадаўства, спартыўныя школы не з’яўляюцца месцам заняцця масавай фізкультурай, а павінны штогод прыносіць вызначаныя спартыўныя вынікі. У іх, маўляў, вядзецца падрыхтоўка да вялікага спорту.

У матэрыялах атэстацыйнай камісіі так і запісана: у Зэльвенскай ДЮСШ “*існуюць праблемы ў арганізацыі навучальна-трэніровачнага працэсу, у парадку пераводу спартсменаў на этапы падрыхтоўкі, у залічэнні і адлічэнні з установы, выкананні вучэбнай праграмы. Адсутнічаюць прызёры рэспубліканскіх і абласных спаборніцтваў, няма навучэнцаў школы ў камандах майстроў, якія ўдзельнічаюць у чэмпіянатах Рэспублікі Беларусь*”.

І ў заключэнне гэтага спісу дадаецца, што ніякіх захадаў для змены сітуацыі ў ДЮСШ не рабілася.

### Адміністрацыя ДЮСШ недапрацавала

Лагічнае пытанне да чыноўнікаў: у чым вінаватыя дзеці, калі няма спартыўных вынікаў? Ёсць жа людзі больш адказныя – трэнеры, адміністрацыя школы. Аказваецца, з атэстацыяй футбольнага накірунку былі праблемы і летась, але адміністрацыі і трэнерам далі год на тое, каб яны выправілі хібы ў сваёй працы.

Як прыклад Аляксандр Дзярнейка прывёў Дзятлаўскую ДЮСШ, адміністрацыя якой на заўвагі атэстацыйнай камісіі летась прыняла ўсе неабходныя меры.

*“Яны на працягу года распрацавалі свой праект, які выйграў у конкурсе федэрацыі футбола, і цяпер маюць фінансаванне*, – распавядае спадар Аляксандр. – *Яны заўважна развіваюцца, зацікаўлены ў тым, што робяць. А ў Зэльве: не атэставалі – ну і не атэставалі. Усё неяк моўчкі. У іх спартыўная школа нагадвае хутчэй нейкі гурток па інтарэсах, а не месца, дзе рыхтуюцца будучыя спартсмены”*.

Дзярнейка паведаміў, што захады да адміністрацыі ДЮСШ Зэльвы ўжо робяцца, але ён не захацеў працягваць размову на гэту тэму.

### Дзеці без футбола не застануцца?

Аляксандр Дзярнейка адмыслова патлумачыў, што ў дзяцей, якія жадаюць і надалей займацца футболам, у Зэльве ёсць прынамсі некалькі варыянтаў. Да прыкладу, існуе Цэнтр фізічна-аздараўленчай працы, дзе праводзяцца заняткі для дзяцей па футболе. Наогул, паводле сцвярджэння нашага суразмоўцы, у Зэльве можна займацца іншымі відамі спорту – лёгкай атлетыкай, гандболам, каратэ...

Упраўленне спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама, паведаміў яго начальнік, рэкамендавала абласной спартыўнай школе пры футбольным клубе “Нёман” узяць на працу аднаго альбо двух трэнераў па футболе, каб яны набіралі групы дзяцей у Зэльве і праводзілі з імі заняткі, якія будуць скіраваны на вынік.

*“У Зэльве дзеці без футбола не застануцца*, – запэўнівае Дзярнейка. – *Справа толькі ў тым, што раён невялікі, дзяцей няшмат і яны, як правіла, у дадатак да футбола наведваюць іншыя спартыўныя секцыі. А там і лёгкая атлетыка, і гандбол, і каратэ, і іншыя. А пажадана, каб была нейкая спецыялізацыя і дзеці ўжо з малога ўзросту канцэнтраваліся на чымсьці адным, тады і вынікі будуць”*.

Дырэктар Зэльвенскай ДЮСШ **Генадзь Галаско** ў размове з карэспандэнтам “Народнай Волі” не сказаў нічога канкрэтнага адносна атэстацыі футбольнага накірунку. Паводле яго слоў, існуюць прычыны аб’ектыўныя, але больш у яго прэтэнзій да трэнераў, якія не здолелі наладзіць гэты працэс. Размовы па сутнасці ў нас не атрымалася. Склалася адчуванне, што спадар Галаско не хацеў абмяркоўваць з журналістам праблемы сваёй школы.

### Трэнер: «У мяне заробак 300 рублёў...»

Трэнер Зэльвенскай ДЮСШ па футболе **Валянцін Суліцэнка** кажа, што яму вельмі шкада, што закрываюць футбольны накірунак. Чыноўнікі і адміністрацыя школы чакалі вынікаў, але вось праблемы матэрыяльнага характару ніхто не хацеў вырашаць. Як аргумент трэнер прыводзіць прыклад, што за 25 гадоў ягонай працы буцы для футбалістаў у ДЮСШ набываліся толькі адзін раз.

*“І хто калі думаў пра матывацыю юных спартсменаў, калі на турніры ім даводзілася ездзіць на грошы бацькоў?* – задаецца пытаннем Суліцэнка. – *У мяне самога заробак 300 рублёў. Прыходжу да дырэктара школы, прашу сродкі на паездку для ўдзелу ў турніры, а мне ў адказ: грошай няма. А ёсць жа планы, праграмы, патрабаванні”*.

Трэнер кажа, што ў раённым цэнтры значна складаней выхоўваць вялікіх спартсменаў. Паводле яго слоў, у тым жа Гродне часцей праводзяцца турніры, футбалісты выязджаюць на спаборніцтвы ў іншыя гарады, а гэта дае моладзі вопыт і практыку.

*“Атрымліваецца, што навокал усе шмат разважаюць аб тым, як і што, а мне каманду даводзілася на спаборніцтвы вазіць на сваёй машыне,* – кажа трэнер. – *А ў нас жа дзяржаўная арганізацыя, а не нейкая прыватная кантора, і калі ёсць патрабаванні, дык патрэбна і неабходнае фінансаванне. Тут жа таксама трэба прытрымлівацца заканадаўства”*.

Дарэчы, у 2017 годзе, калі фінансавая сітуацыя ў школе была больш стабільнай, распавёў трэнер, ён падрыхтаваў для вышэйшага звяна чатырох спартсменаў, удзельнічаў з камандай у некалькіх хатніх і выязных турнірах. А ўжо ў 2018-м сітуацыя пагоршылася, і значна. *“Сёлета мы ні разу нікуды не выязджалі для ўдзелу ў турнірах. А з нас патрабуюць паказчыкі, як запісана ў заканадаўстве...”*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Нагуляліся?

*Марадона дыстанцыраваўся ад брэсцкага “Дынама”.*



Усё пачыналася, як у казцы. 16 мая гэтага года ў мінулым знакаміты футбаліст **Дыега Марадона** падпісаў трохгадовы кантракт з футбольным брэсцкім “Дынама” і заняў пасаду старшыні праўлення клуба. Было публічна абвешчана: легенда “*будзе займацца пытаннямі стратэгічнага развіцця клуба, а таксама ўзаемадзейнічаць з усімі яго структурнымі падраздзяленнямі, уключаючы дзіцячую акадэмію*”.

У выніку ў ліпені Марадона прыляцеў у Брэст на адзін дзень, пасля чаго знік, як з белых яблынь дым. Пазней ён сам паведаміў: лечыць зубы ў Аргенціне ў доктара Бравермана ды рыхтуецца да вяселля, бо зрабіў прапанову рукі і сэрца сваёй 28-гадовай сяброўцы **Росія Алівэ.**

Раней Марадона заяўляў, што валодае сродкамі для пакупкі новых футбалістаў, і нават гучна абвясціў, што “*падпісаў варатара Кампестрыні*”, хаця гэта аказалася няпраўдай.

А зараз стала вядома, што Дыега Марадона прызначаны галоўным трэнерам мексіканскага клуба “Дарадас дэ Сіналоа”.

*“У той жа час я буду па-ранейшаму заставацца ганаровым старшынёй праўлення брэсцкага “Дынама”*, – удакладніў аргенцінец.

Пазней зрабіў афіцыйную заяву і брэсцкі клуб: *“Дыега Марадона быў запрошаны ў футбольны клуб “Дынама-Брэст” у якасці ганаровага прадстаўніка. Асноўнымі яго абавязкамі з’яўляюцца папулярызацыя беларускага футбола, развіццё інфраструктуры, удзел у трансферных кампаніях, прыцягненне спонсараў, развіццё дзіцяча-юнацкага футбола. Згодна з умовамі кантракта, Марадона можа займаць пасады ў іншых арганізацыях. Такім чынам, ён працягвае займаць пасаду старшыні праўлення клуба, адначасова сумяшчаючы яе з пасадай тэхнічнага дырэктара мексіканскага футбольнага клуба”*.

*“Хваткія агенты Марадоны, відаць, добра зарабляюць разам з ім, уладкоўваючы свайго кліента на пасады зіц-старшыні па ўсім свеце і гандлюючы яго імем*, – пішуць балельшчыкі на форумах. – *Якія там яшчэ пасады засталіся для Марадоны? Ганаровы дырэктар? Пасол добрай волі?”*

Адным словам, уся гэтая сітуацыя больш нагадвае нейкае цыркавое прадстаўленне, у якой легендарнаму футбалісту адвялі ролю высокааплатнага клоўна з не самым лепшым іміджам. Не будзем лічыць грошы ў чужой кішэні, але адно вядома дакладна: калі грошай шмат, то гэта яшчэ зусім не азначае, што будзе шмат і вынікаў.

**Алесь СІВЫ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

9 772071 964000 18072

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб’явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 10.09.2018 у 17.00. Аб’ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 705 экз. Заказ № 3343.